**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№20(632)**
**17 траўня 2012 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае




Photo ByMedia.net
Месяц травень у квецені садоў.





Андрусь Такінданг

19 мая 2012 ў касцёле Святога Юды Тадэуша ў Лучаі (Віцебская дыяцэзія, Пастаўскі раён) адбудзецца ўрачыстая святая Імша а 16:30 гадзіне.

(Лучай знаходзіцца каля трасы Вільня-Полацк. Ад Пастаў у бок Глыбокага каля 10 км).

Свята прымеркавана парафіяльнаму адпусту (фэсту) у гонар святога Андрэя Баболі, апостала Палесся. Запрошаныя шматлікія госці і святары.

Літургію ўпрыгожыць сваім спевам хор з парафіі Дзеркаўшчына. Пасля святой імшы плануецца канцэрт с удзелам Андруся Такінданга і гурта "РЭХА", будзе дзейнічаць "Вёска майстроў" і забавы.

***Кс. Мікалай Ліпскі.***

## Запрашаем на Урачыстасць у Мосарскі "Санктуарый" святога Юстына-мучаніка 2-3. 06. 2012 года

**Бурлівыя каляіны амаль трохсотгадовай гісторыі рэліквій святога Юстына-мучаніка на беларускай зямлі заахвочваюць нас схіліць калені ў мосарскім "Санктуарыі св. Юстына".**



Рэліквіі св. Юстына былі прывезеныя з Рыму ў 1754 годзе і 84 гады захоўваліся пад апекай айцоў кармелітаў Босых у Старым Мядзелі, а з 1838 года знаходзяцца ў касцёле святой Ганны ў в. Мосар Глыбоцкага раёна.

У міжваенны перыяд людзі прыходзілі ў Мосар, каб вымаліць праз заступніцтва святога Юстына Божыя ласкі. Культ святога быў каласальны, і вотаў падзякі, якіх было 38, былі змешчаныя каля алтара і сведчылі аб цудоўных аздараўленнях вернікаў.

Зараз культ святога мучаніка адраджаецца і шматлікія людзі, як каталікі, так і праваслаўныя прыязджаюць у Мосар, каб памаліцца перад рэліквіямі. Асабліва ўшаноўваецца святы Юстын 1 чэрвеня, ва ўспамін гэтага святога ў Касцёле. Натоўпы пабожных людзей збіраюцца ў мосарскім касцёле, знаходзячы палёгку ў цярпеннях, здароў'е, вызваленне ад алкагольнай залежнасці, Божую ласку і благаслаўленне, аб якіх прыходзяць прасіць святога Юстына.

Святкаванне ў гэтым годзе будзе па наступным расkладзе:

**2 чэрвеня (субота).**
13:00 - Святая Імша з казаннем.
14:00 – 17:30 – Адарацыя Найсвяцейшага Сакрамэнту ў капліцы.
17:30 – малітва падзякі перад рэліквіямі святога мучаніка Юстына за скарб хрысціянскай веры.
18:00 - Святая Імша з казаннем.

**3 чэрвеня (нядзеля). Урачыстасць Святога Юстына-мучаніка.**
10:00 – Святая Імша аб цвярозасці беларускага грамадства.
11:00 – 12:30 – Адарацыя Найсвяцейшага Сакрамэнту ў капліцы.
12:30 – Літанія да святога Юстына за сем'і, моладзь і дзяцей.
13:00 – Урачыстая Святая Імша з Працэсіяй.
14:30 – Выступленне Заслужанага Народнага фальклёрнага мастацкага ансамбля "Паазер'е", пад кіраўніцтвам Анатолія Собаля, і народнае гулянне.

***Ксёндз Аляксей Юркайць, адміністратар парафіі Мосар.***

Полацкі раён

# Упадабалі бабулі наўтбук

■ Чэслаў Якубовіч

**Ужо некалькі разоў здзіўляў Полацкі раён усю краіну сваімі арыгінальнымі культурнымі мерапрыемствамі і рознымі конкурсамі.**

На Полаччыне, у адрозненне ад іншых, увесь час нешта новае прыдумляюць, вось нядаўна першымі ў Беларусі арганізавалі службу сацыяльнай дапамогі пажылым у глыбінцы. У падобным рэчышчы цяпер тут стартавала новая акцыя навучання людзей старэйшага пакалення працы на камп’ютары. Пры сельскіх бібліятэках у розных кутках раёна адкрыліся 12 камп’ютарных школ. У кожнай з іх сталі бясплатна вучыцца камп’ютарным тэхналогіям і тэхніцы выхаду ў Інтэрнет па 8-10 мясцовых пенсіянераў. Для іх стварылі спецыяльныя праграмы навучання, каб яны не баяліся карыстацца інтэрнет-рэсурсамі, адпраўлялі электронныя пісьмы сваім дзецям і ўнукам, па скайпу маглі гутарыць з роднымі і знаёмымі ў розных кутках свету. Перад гэтым у сельсаветах падабралі жадаючых у сталым узросце далучыцца да сучасных сродкаў камунікацыі. Бібліятэкары праводзяць навучанне пажылых асновам працы з праграмамі Windows у вызначаны час, зручны для людзей. Праз некаторы час пасля заканчэння гэтых незвычайных курсаў у раёне спадзяюцца, што прыбавіцца не толькі колькасць людзей, якія будуць умець карыстацца аперацыйнымі праграмамі камп'ютара. Неўзабаве пройдзе і другі набор для тых, хто захоча свабодна карыстацца камп’ютарнай мышкай, а затым і ствараць свае файлы, слухаць музыку, глядзець свае любімыя фільмы маладосці з дапамогай Інтэрнэту.



Браслаўскі раён

# Прыгажосць выратуе свет

■ Станіслаў Раманчук

**З надыходам сапраўднай сонечнай вясны звычайна цяжка сабраць людзей разам на розныя імпрэзы, бо яны імкнуцца на свежае паветра, найчасцей папрацаваць у вольны час на прысядзібных участках і на сваіх дачах.**

Аднак у падобны такі выхадны дзень зала раённага Дома культуры ў Браславе была перапоўненая гледачамі. Такое тут бывае, калі праходзіў днямі чарговы фінал папулярнага конкурсу “Міс горада Браслава – 2012”. Да ўдзелу ў апошняй шоу-праграме адабралі восем, сапраўды вельмі абаяльных і сімпатычных прадстаўніц чароўнай паловы чалавецтва. Новы кіраўнік раёна Сяргей Шматаў знайшоў час і пагадзіўся ўзначаліць працу журы, якім прыйшлося паламаць галаву, каму аддаць перавагу ў абавязковай “Візітнай картцы”, іншых дамашніх заданнях і розных конкурсах прама на сцэне. Як і на іншых падобных шоу рытмічныя танцы змяняліся маналогамі, нечаканымі імправізацыямі, жартамі. Па густу ўсім прыйшліся дасціпныя адказы ўдзельніц на пытанні конкурсу “Нечаканая сітуацыя”. Прыгажуні паказалі свае здольнасці і ўменне, як гаспадыні, мадэльеры, інтэлектуалы. Сапраўдны ажыятаж узнік, калі яны сталі дэманстраваць сваю паходку і прыгожыя фігуры падчас дэфіле ў купальных касцюмах. У выніку ніхто з удзельніц не застаўся без прызоў, а званне “Міс Браслава” з невялічкай каронай дасталося Анастасіі Пука. Самай абаяльнай не толькі члены журы, але і госці з Латвіі прызналі Юлію Бабінскую і ўручылі ёй набор латышскай касметыкі і пуцёўку на адпачынак удваіх у Рызе.

Пастаўскі раён

# Паўстане парк за горадам

■ Кастусь Александровіч

**Усе лясныя гаспадаркі Віцебшчыны прынялі сёлета ўслед за іншымі рэгіёнамі краіны актыўны ўдзел у штогадовай акцыі “Тыдзень лесу-2012”, прысвечанай 130-годдзю з дня нараджэння класікаў беларускай літаратуры Я. Купалы і Я. Коласа.**

У розных кутках вобласці за тыдзень працы было высаджана маладых насаджэнняў на плошчы 1030 гектараў і на 300 га лясных масіваў. У Пастаўскім раёне тыдзень лесу правялі ў пяты раз і пасадзілі маладых лес на плошчы 110 гектараў, асабліва шмат саджанцаў у аддаленых Лынтупскім, Камайскім і Груздаўскім лясніцтвах. У гэтым годзе для аматараў прыроды знайшлася праца і ў самім райцэнтры, дзе заклалі некалькі алей для яшчэ аднаго будучага гарадскога парку. Ён размесціцца ў Паставах на выездзе ў накірунку Літвы па суседстве з новым мікрараёнам індывідуальнай забудовы вуліцы Будаўнікоў побач з абноўленай АЗС. На закладку парка з бяроз і ліп у цёплы сонечны дзень прыбылі школьнікі дзіцячага лясніцтва “Ялінка” пры СШ № 4, ваеннаслужачыя пагранічнай авіяэскадрыллі, работнікі банкаў, іншых арганізацый і самога лягаса. Тут раней гараджане самі пасадзілі ў сярэдзіне сямідзесятых гадоў мінулага стагоддзя цэлы сасновы бор, які стаў урочышчам “Сасноўка”. Мясціны на ўскраіне горада маляўнічыя,а стануць яшчэ прыгажэйшыя, паколькі ў будучым парку запланавана зона адпачынку з пешаходнымі дарожкамі, штучным вадаёмам, спартыўнымі і гульнявымі пляцоўкамі.

# Лічба нумара

**3%** такі эканамічны рост у **Беларусі** сёлета ВУП, па ацэнках аналітыкаў Міжнароднага валютнага фонду, прагназуецца да канца 2012 года. У чарговым аглядзе сусветнай эканомікі замежныя спецыялісты таксама прагназуюць для беларусаў, праўда, і гадавы рост цэн у межах 38,4 %. Нагадаем, што афіцыйны такі прагноз інфляцыі вагаецца ў карыдоры меншым 19-22 %. Аднак ужо ў сярэдзіне красавіка пасля падаражання паліва, камунальных паслуг і цыгарэт рост цэн для беларусаў у гэтым годзе дасягнуў 6,3 % і ім ёсць куды далей расці на працягу васьмі наступных месяцаў.

Да таго ж у гэты перыяд Мінсельгасхарч Беларусі істотна павысіў цэны на прадукцыю насенняводства і на мяса з малаком, якое закупляецца для дзяржаўных патрэб. У выніку спажыўцы новы цэнавы ўзрыў на харчаванне і на моцныя алкагольныя напоі ўбачылі адразу, махавік абрыдлай інфляцыі і не думае спыняцца. Затурканых суайчыннікаў ужо не моцна радуе і аб’яўленае павышэнне пенсій у сярэднім на 18 %, і абяцанні ўлад сёлета яшчэ некалькі разоў павысіць зарплаты, бо ў нас па-ранейшаму айчынная эканоміка застаецца дырэктыўнай і камандна-адміністрацыйнай. Да прыкладу, на Віцебшчыне мясцовым уладам паставілі задачу любой цаной дасягнуць павелічэнне зарплат да 500 USD.

Вось толькі пры гэтым краіна дабіваецца крохкай стабілізацыі дзякуючы шчодрым замежным займам. Успомніце, у мінулым годзе нам вельмі дапамаглі крэдыты Антыкрызіснага фонду ЕўрАзЭС, а таксама дапамога Расіі па зніжэнні цэн на энерганосьбіты пасля перадачы “Газпраму” поўнага кантролю над беларускай газавай трубой – “Белтрансгазам”. Не трэба замоўчваць, што за акіянам у Міжнародным валютным фондзе знаходзіцца заяўка Беларусі на атрыманне чарговых крэдытаў, хоць перамовы па гэтым пытанні так і не пачыналіся.

І не палітычныя патрабаванні нам выстаўляе гэтаўплывовая міжнародная фінансавая арганізацыя, як даводзяць дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі, а найперш пазіцыя беларускага кіраўніцтва па пытаннях далейшых структурных рэформ і прыватызацыі ў Беларусі. Вось з апошнім у нас поўная неразбярыха ў галавах упраўленцаў, бо ўсё залежыць ад аднаго самага ўплывовага чалавека ў дзяржаве. Аднак на практыцы запланаванае на 19 красавіка штогадовае пасланне Прэзідэнта беларускаму народу і парламенту ў апошні момант перанеслі на пазнейшы тэрмін, а чыноўнікаў і свет папярэдзілі, што ў Беларусі не будзе залішне “ліберальнага падыходу” ў гэтых пытаннях.

Хутчэй усяго мы будзем прытрымлівацца агучаных раней смелых планаў развіцця, зацверджаных так званым Усебеларускім сходам. Але ж адзін раз на граблі мы ўжо наступілі, калі рапартавалі аб дасягненні зарплаты 500 долараў (рост склаў тады 1,5 разы з існаваўшых 330 долараў, было надрукавана шмат пустых паперак). Што было далей у выніку гэтага эксперыменту, беларусы добра адчулі на сваёй шкуры: рост цэн на 108 %, дэвальвацыя нацвалюты на 180 % і зніжэнне заробкаў прыкладна на трэць. Сумна, але мы ўпарта працягваем ісці сваім шляхам, ігнаруем законы арганізацыі рыначнай эканомікі і строгай грашова-крэдытнай палітыкі.

Цяпер па ўзроўні заробкаў беларусы – апошнія ў Еўропе, хоць цэны ў нас ужо па многіх паказчыках сусветныя, вышэй, чым у суседзяў. На гэтым фоне закупачныя цэны на сельгаспрадукцыю выраўнялі па ўсёй Беларусі, і тона самага таннага малака стала каштаваць 2 мільёна 555 тысяч рублёў. Самыя лепшыя, вышэйшай укормленасці свінні і быкі пацягнулі ў цане да 17,5 – 18,9 мільёна рублёў за тону жывой вагі. Зерне новага ўраджаю таксама падаражэла, і не варта здзіўляцца, што ў магазінах цэннікі на тавары павысіліся, альбо ўжо выраслі.

Аднак нават у гэтых умовах краіна будзе развівацца, па ацэнках таго ж Міжнароднага валютнага фонду у 2013 годзе рост ВУП Беларусі складзе 3,3 % і нават 5,3 % да 2017 года. У выпадку правядзення беларускім урадам структурных рэформ можна разлічваць на патрэбнае паступленне інвестыцый. Без гэтага яшчэ ніводнай краіне свету не ўдавалася пабудаваць квітнеючага грамадства, а мы цяпер усё далей адстаём у развіцці нават ад адзінага саюзніка – Расіі.

**Надвор'е ў Глыбокім** www. rp5ru

| | Чацвер 17.05.12 | | | | Пятніца 18.05.12 | | | | Субота 19.05.12 | | | | Нядзеля 20.05.12 | | | | Пнд. 21.05.12 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +13 | +17 | +20 | +18 | +10 | +11 | +14 | +14 | +8 | +10 | +14 | +12 | +5 | +12 | +16 | +15 | +7 | +14 | +20 |
| Ціск | 741 | 742 | 742 | 741 | 743 | 746 | 748 | 749 | 75( | без осадков | | 752 | 753 | 753 | 753 | 751 | 751 | 750 | 748 |
| Вільготнасць | 99 | 86 | 75 | 90 | 100 | 90 | 71 | 75 | 88 | 71 | 44 | 71 | 100 | 79 | 54 | 74 | 100 | 78 | 61 |
| Вецер м/сек | 6 Ю-В | 5 Ю-В | 2 Ю-В | 3 Ю-В | 2 З | 3 С-З | 4 С-З | 2 З | 1 З | 3 З | 4 З | 2 С-З | 1 С | 1 С | 1 С | 1 С-В | 3 С-В | 1 В | 1 Ю |

## Дзень за днём

**Эканамічны рост у Беларусі замарудзіўся і склаў у 1-м квартале толькі 3 % (летась за такі перыяд ВУП вырас на 10,9 %). З пачатку года знешні доўг РБ вырас яшчэ на 75,3 млн. долараў. Да канца года ў аўтаматызаваным лічбавым рэжыме пачне дзейнічаць адзіная сістэма ўпраўлення войскаў супрацьпаветранай абароны Расіі і Беларусі. Бясплатны праезд для сталічных студэнтаў адменяць з 1 ліпеня. За год цэны за атрыманне адукацыі ў айчынных ВНУ выраслі на 184 %, гэта – антырэкорд для Еўропы. На прадстаячых парламенцкіх выбарах сярэдняя колькасць выбаршчыкаў у акрузе складзе каля 65 тысяч чалавек, у Мінску акруг будзе 20.**

# Важнейшыя навіны свету

**ЗША.** Генеральны сакратар ААН Пан Гі Мун заклікаў сусветную супольнасць аказаць дапамогу пацярпелым чарнобыльскім раёнам Беларусі, РФ і Украіны, там жыве 6 млн.

**Германія.** Глава МУС краіны Ханс Фрыдрых прапанаваў увесці часовы (да 30 сутак) пагранічны кантроль у ЕС у выпадку рэзкага павелічэння нелегальнай міграцыі.

**Украіна.** Серыя выбухаў у цэнтры Днепрапятроўска, ад якіх пацярпелі 29 чалавек, устрывожыла Еўропу, аднак УЕФА упэўнены ў бяспецы правядзення тут Еўра-2012.

**Індыя.** Краіна стала адной з нямногіх у свеце, хто мае межкантынентальныя ракеты дальняга радыуса дзеяння, здольныя даставіць ядзерную зброю ў патрэбны раён.

**Грузія.** Прэзідэнт М. Саакашвілі пагадзіўся пайсці ў адстаўку з займаемай пасады пры ўмове вываду Расіяй сваіх ваенных з тэрыторыі Абхазіі і з рэгіёну Цхінвалі (Асеціі).

**Расія.** Расійскі лідар Д. Мядзведзеў назваў А. Лукашэнку "чалавекам няпростым, эмацыйным", адзначыў яго заслугі ў падтрымцы ідэі Еўразійскай эканамічнай прасторы.

**Японія.** Краіна першая з сусветных лідараў прадаставіла пазыку МВФ у суме 60 млрд. долараў, каб не дапусціць распаўсюджвання крэдытнага крызісу ў Еўропе і ў еўразоне.

**Аўстрыя.** У рацэ Дунай у сталіцы Вене без прыкмет гвалтоўнай смерці знайшлі труп 69-гадовага экс-прэм'ера Лівіі пры рэжыме Кадафі Шукры Ганема, невядома, што адбылося.

**Галандыя.** Міжнародны суд у Гаазе прызнаў экс-прэзідэнта Ліберыі Ч. Тэйлара вінаватым у ваенных злачынствах, працэс над ім доўжыўся 4 гады, за кратамі ён будзе ў Англіі.

**Канада.** Спецслужбы адшукалі нацысцкага злачынцу, 91-гадовага ўкраінца-эмігранта У. Катрука, яго падазраюць у спальванні людзей у Хатыні і могуць дэпартаваць з краіны.

**Украіна.** Адвакат экс-прэм'ера Ю. Цімашэнкі заявіў, што яе збіў намеснік начальніка калоніі, лідары Расіі і ЕС лічаць яе справу і асуджэнне на турэмны тэрмін палітычнай расправай.

**Куба.** Двое маладых артыстаў, выканаўцаў галоўных роляў у фільме пра ўцекачоў самі збеглі ў ЗША і папрасілі там палітычнага прытулку, як і дзясяткі іх калег, спартсменаў.

**Польшча.** Для забеспячэння бяспекі чэмпіянату Еўропы па футболе з 4 чэрвеня па 1 ліпеня на граніцах краіны з дзяржавамі ЕС увядуць часовы пагранічны кантроль.

**Іспанія.** Ураганны вецер з парывамі нават да 140 км/г ледзь не прывёў да масавай авіякатастрофы ў аэрапорце Більбао, дзе з цяжкасцю прызямліліся 10 рэйсавых самалётаў.

**Расія.** З-за крытыкі палітыкі Крамля ў "чорны спіс" артыстаў трапіў спявак і саліст групы ДДТ Юрый Шаўчук, адмянілі адразу 4 яго сольныя канцэрты ў буйных гарадах Сібіры.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Быхаў.** Прэзідэнт РБ А. Лукашэнка заявіў на кансервавым заводзе, што болей не будуць друкаваць незаробленых грошай для таго, каб плаціць больш высокую зарплату.

**Кобрын.** КДБ не выключыў наяўнасць тэрарыстычнага следу пасля гібелі пры разборцы ручной гранаты ў райцэнтры вечарам 54-гадовага бацькі і яго 32-гадовага сына.

**Мінск.** У Беларусі ўстанавілі 5 відаў перавозак пасажыраў і багажу чыгуначным транспартам, у залежнасці ад адлегласці, хуткасці руху і тыпу паяздоў будуць тарыфы.

**Дзятлава.** Да канца верасня раскупілі ўсе пуцёўкі ў папулярны санаторый "Радон", хоць аздараўленне тут каштуе 500 $ за 12 дзён, колькі тыднёвы адпачынак у сонечнай Грэцыі.

**Ашмяны.** Дырэкцыя торфабрыкетнага завода згадзілася прадаць 50 % акцый свайго прадпрыемства адной з буйных кампаній Літвы "Ахема груп", яе бізнес у РБ 100 млн еўра.

**Стаўбцы.** Ад атрыманых траўм у райбальніцы памёр 46-гадовы жыхар вёскі Заямнае, яго так моцна збіў палкай і рукамі з-за рэўнасці старэйшы п'яны 52-гадовы родны брат.

**Гродна.** На пагранпераходзе "Брузгі" не ўпусцілі ў РБ віцэ-спікера Сената Польшчы Станіслава Гогача, які з дыпламатычным пашпартам ехаў на фінал конкурсу-дыктоўкі.

**Асіповічы.** Днём 31-гадовы псіхічна хворы жыхар раёна кінуўся пад поезд і загінуў, з пачатку года на чыгуначных пуцях у Беларусі знайшлі сваю пагібель ужо 39 чалавек.

**Пружаны.** Паблізу райцэнтра двое вучаніц 9 і 6-га класаў глыбокай ноччу ў масках і з цацачнымі пісталетамі абрабавалі 92-гадовую адзінокую бабулю-суседку ў яе хаце.

**Маладзечна.** Следчы камітэт распачаў крымінальную справу супраць навучэнца ПТВ і вучаніцы 9-га класа, якія ноччу скралі з магазіна вёскі Пралескі 22 мільёна рублёў выручкі.

**Мінск.** Фінскі спецыяліст Кары Хейкіля стаў сумяшчаць працу ў нацыянальнай зборнай Беларусі па хакеі з пасадай галоўнага трэнера моцнага клуба КХЛ "Дынама" (Мінск).

**Жодзіна.** 24-гадовая дачка спявачкі А. Агурбаш Даша пакінула шыкоўнае жыццё ў Маскве, каб быць разам з каханым, беларускім футбалістам з "Тарпеда" Дзімам Рэкішам.

**Мінск.** У мікраераёне Сухарава-5 невядомыя зламыснікі ноччу падчас навальніцы моцна пашкодзілі больш 50 легкавых аўтамабіляў: білі шкло, вырывалі аўтамагнітолы.

**Гродна.** З залатой каронай вярнулася дамоў з Дамініканскай Рэспублікі Святлана Крук з сусветнага конкурсу прыгажосці, яна заваявала і тытул "Супермадэль – Місіс Міленіум".

**Мінск.** Суперпапулярная спявачка Алена Ваенга з-за праблем з галасавымі звязкамі адмяніла канцэрт у сталіцы і ў 8-мі гарадах, страціла шмат грошай, бо білеты каштуюць да 1,4 мільёна рублёў.

# «Славянскі базар у Віцебску» адкрыецца 12 ліпеня




■ Белтэлерадыёкампанія

**Кожны год арганізатары спрабуюць здзівіць. Гэтым разам абяцаюць прывезці Саманту Фокс і ўдзельнікаў цяперашняга «Еўрабачання» - «Бурановских бабуль». Калі і, галоўнае, па якому кошту будуць прадавацца квіткі на фэст, ужо ведае Аляксандр Свірскі.**

Праца па падрыхтоўцы фэсту стартавала за некалькі месяцаў да яго пачатку і падоўжыцца аж да дня адкрыцця. Леташні «Славянскі базар» аказаўся самым наведвальным - сярэдняя напаўняльнасць залы склала 80 адсоткаў. Сёлета арганізатары маюць намер калі і не павялічыць, то, прынамсі, захаваць цікавасць гледачоў. Таму на адкрыцці фэсту выступяць як прадстаўнікі сучасных музычных тэндэнцый, да прыкладу, нашумелыя «Бурановские бабулі», так і ветэраны поп-сцэны - у Віцебск прыедзе ўдзельнік легендарных «Смокі» Крыс Норман. Квіткі паступяць у продаж ужо 18 траўня. Купіць іх можна будзе як у рэальных, так і віртуальных касах. Летась праз Інтэрнэт было прададзена больш 10 тысяч квіткоў. Кожны дзясяты набыты замежнікам. Яшчэ адзін спосаб распаўсюджвання квіткоў, які зарэкамендаваў сябе летась, - праз турфірмы. Праўда, некаторыя арганізацыі спрабавалі на гэтым зарабіць, завышаючы іх кошт. У 2012 годзе падобныя спекуляцыі ўжо не пройдуць. Быў агучаны і кошт квіткоў. Самы танны абыдзецца ў 25 тысяч рублёў, а за добрае месца на адкрыцці фэсту прыйдзецца выкласці 750 тысяч. Але, як паказвае практыка, нягледзячы на кошт, квіткі раскупляюцца ў першыя некалькі дзён. Упершыню за доўгія гады рэжысёрамі ўсіх мерапрыемстваў стануць выключна беларусы. Дзіцячы конкурс адсвяткуе сваё 10-годдзе і збярэ на сцэне ўсіх пераможцаў за час свайго існавання. Акрамя дзяцей, упершыню ў абноўленай канцэртнай зале «Віцебск» у рамках фэсту пройдуць 2 сольных канцэрты - Пелагеі і Барыса Майсеева. Па традыцыі, зменіцца і выгляд галоўнай канцэртнай пляцоўкі фэсту. Сёлета лейтматывам стануць традыцыйныя беларускія ўзоры. Не застанецца ўбаку і тэатральны складнік «Славянскага базару». Па прызнанні арганізатараў, гледачам нецікавыя сюжэт і яго перыпетыі. Галоўнае, каб на сцэне былі знакамітыя, так бы мовіць, медыйныя персоны. Менавіта на гэта і будзе зроблена стаўка гэтым летам. Згуляе яна ці не, але 21-ы міжнародны фэст «Славянскі базар» абяцае стаць адным з самых запамінальных за ўсю сваю гісторыю.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** Са 100 цяперашніх школьнікаў, як заявіў галоўны ўрач вобласці Юрый Дзеркач, толькі 26 не маюць ніякіх захворванняў, колькасць навучэнцаў школ пастаянна зніжаецца.

**Полацк.** На працягу двух дзён кіраўнікі аператыўных органаў пагранічных службаў дзяржаў СНД абмеркавалі ў горадзе меры процідзеяння трансгранічнай злачыннасці.

**Новалукомль.** Улады накіравалі 73 млн. рублёў ад раённага суботніка на пабудову царквы св.мучаніка Уладзіміра, 3 гады назад гэты ўзводзімы храм падпалілі невядомыя злачынцы.

**Браслаў.** Да чыгуначнага вакзала ў Віцебску змог уцячы 19-гадовы беспрацоўны з вёскі Суднікі, дзе яго затрымала міліцыя па падазрэнні ў забойстве мясцовага пенсіянера.

**Орша.** Ля вёскі Хабарова на чыгуначным пераездзе вадзіцель на іншамарцы сутыкнуўся з поездам Парыж-Масква, застаўся жывы, затрымка руху цягніка склала 49 хвілін.

**Чашнікі.** Па выніках працы ў 2011 годзе Чырвоналукскую сельскую амбулаторыю агульнай практыкі прызналі лепшай у Беларусі, яе аснасціл навейшым медабсталяваннем.

**Віцебск.** Міліцыя спрабавала не дапусціць сустрэчу здымачнай групы праграмы "Чалавек і закон" расійскага Першага тэлеканала з сям'ёй расстралянага Уладзіслава Кавалёва.

**Шаркаўшчына.** Спявак з райцэнтра Мікалай Марозаў стаў пераможцам абласнога конкурсу і прадставіў вобласць у фінале Рэспубліканскага "Не старэюць душой ветэраны".

**Дуброўна.** Рэйдавую групу санстанцыі проста шакіравалі вялізныя сметнікі ля многіх дамоў у рабочым пасёлку Асінторф, у тым ліку і побач з будынкам сельсавета.

**Браслаў.** Пагадненне аб супрацоўніцтве райсавет дэпутатаў заключыў з кіраўніцтвам мясцовага самакіравання Рапласкага ўезда Эстоніі, наступны візіт эстонцаў - у чэрвені.

**Расоны.** Пры спробе вывезці ў Расію без адпаведных дакументаў міліцыя затрымала ля вёскі Клясціцы грузавік з 20 тонамі чырвоных буракоў, іх вёз жыхар Полацкага раёна.

**Наваполацк.** Нягледзячы на складанае фінансавае становішча, ФК "Нафтан" прабіўся ў фінал розыгрышу 20 мая Кубка Беларусі па футболе і мае шанцы трапіць у Лігу Еўропы.

**Віцебск.** З абласной бальніцы на працу ў новы федэральны цэнтр траўматалогіі і артапедыі ў Смаленску з'ехалі шэраг беларускіх медыкаў, бо там значна вышэй заробкі.

**Глыбокае.** Супрацоўнік райгазеты "Веснік Глыбоччыны" Алесь Жыгуноў стаў адным з пераможцаў штогадовага рэспубліканскага конкурсу журналістаў "Залатое пяро-2011".

**Віцебск.** На падпітку 34-гадовы будаўнік ноччу ўгнаў машыну хуткай дапамогі быццам для сваёй жонкі, яму за такое свавольства пагражае да 5 гадоў пазбаўлення волі.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

■ Уладзімір Скрабатун

# Чырвонацагляны будынак глыбоцкага музея затынкуюць да Дня беларускага пісьменства і друку, каб было "красіва"?

**Патэлефанаваў аўтару адзін неабыякавы глыбачанін і кажа: "Ля будынка музея ставяць рыштаванні, будуць тынкаваць яго да свята Дня беларускага пісьменства і друку. Трэба неяк спыніць гэты вандалізм!"**

Будынак музея, бадай што адзіны ў горадзе старадаўні будынак, які захаваў свой аўтэнтычны першапачатковы чырвонацагляны выгляд. Гадоў дзесяць таму сам асабіста прачытаў у "Весніку Глыбоччыны", што будынку музея нададзены статус гісторыка-культурнай каштоўнасці і што ён падпадае пад ахову дзяржавы.

З гэтым будынкам звязана досыць змрочнае паданне… Кажуць, што гэты будынак, яшчэ «за польскім часам», узводзіў "прараб" беларус сп. Крывёнак для мясцовай яўрэйскай супольнасці. Аднак, беларус, кіраўнік будаўнічай фірмы, "развёў яўрэяў на бабкі", не разлічыўся годна з рабочымі будаўнікамі. Фактычна, завалодаў яўрэйскім будынкам.

Яўрэі ж пачалі помсціць. Дасталі з паліцы чорную кніжку, прыйшлі да будынка, пачалі яе чытаць, запалілі чорную свечку, вадзілі "карагод", праклялі будынак да скону веку.

– Ты , пан Крывёнак, тут жыць ніколі не будзеш, як ніколі ніхто не будзе тут жыць!– напрарочылі яўрэі.

І, сапраўды, неўзабаве прыйшлі бальшавікі. Зразумела, што 2-павярховы дыхтоўны будынак у спадара Крывёнка яны канфіскавалі. Потым, у паваенны перыяд, тут было ўсё, але толькі не жылы дом: гарсавет, кантора ЖКГ, потым музей.

Я памятаю, як стваралі гэты музей у сярэдзіне 1990-х. Прыехаў мастак з Мінска, маляваў глыбоцкія дыярамы з касцёламі і кляштарамі… Начаваў у будынку музея. І раптам цяжка захварэў, з'ехаў у Мінск і так больш не вярнуўся.



У нас любое свята на Беларусі – Дзень пісьменства ці Дажынкі – ператвараюцца ў катастрофу для помнікаў гісторыі і культуры. Тыдзень таму скончылі тынкаваць будынак XIX ст па вуліцы Леніна, 5. На ім жа вісіць ахоўная шыльда! Праўда, яго фасад ад вуліцы быў затынкаваны яшчэ пры саветах, але заставаліся яшчэ тры бакі не атынкаваныя, якія былі пафарбаваныя светла-чырвонай эмульсіяй, але цагляная фактура муройкі выразна праглядалася. Затынкавалі!

Я патэлефанаваў спадару Антону Астаповічу, старшыні ГА "Беларускае добраахвотнае таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры", паведаміў згаданы вышэй факт, што тынкоўка істотна зменіць гістарычны выгляд будынка музея.

– Я, Валодзя, наўрад ці магу штосьці змяніць! Гэты будынак не знаходзіцца ў ахоўным спісе. Але паспрабую,– кажа спадар Астаповіч.

– Як не знаходзіцца ў ахоўным спісе? Я ж сам чытаў у раённай газеце, што будынак музея аднесены да гісторыка-культурнай спадчыны!

– Ты й можа гэта і чытаў,– працягвае сп. Астаповіч. Але спіс гісторыка-культурных каштоўнасцяў ледзьве не штогод карэктаваўся. Ну паслалі вашы ўлады адзін раз прапанову на ўключэнне будынка музея ў ахоўны спіс. Уключылі яго ў гэты спіс. Праз год-другі спіс у Мінску адкарэктавалі, а вашыя ўлады, можа, і ведаць гэтага не маглі альбо ведалі пра карэктыроўку, але не паслалі ізноў дакументы.

– Дзіўная нашая краіна! Вось спадар Астаповіч часта папракаў мяне і іншых нашых краязнаўцаў, што мы не пішам прапановы ў Міністэрства культуры на ўключэнне гістарычных будынкаў Глыбокага ў ахоўны спіс. А тут – такая рэчаіснасць можа здарыцца: аказваецца, напішаш дакументы, пашлеш ў Мінск, уключаць будынак у ахоўны спіс… А праз год-другі Міністэрства адкарэктуе гэты спіс. Выкрасліць будынак з ахоўнага спіса. А хто пра гэта ўжо будзе ведаць?

Ці мне, альбо камусьці яшчэ Міністэрства прышле персанальнае паведамленне, маўляў, ізноў трэба пісаць прапанову? Шэлег цана з такіх прапановаў грамадства: уключылі, а потым выкраслілі…



■ Алесь Гай,
*г. Глыбокае.*

# Глыбачане, мне сорамна за Вас!

Сёлетні выбар сталіцы штогадовага свята пісьменства вельмі ўдалы. Гэта наша Глыбокае. Глыбокае і Глыбоцкі раён – радзіма вялікай групы людзей, якія зрабілі значны ўнёсак як у беларускую, так і сусветную культуру. Мастак Язэп Драздовіч, Ігнат Буйніцкі – бацька нацыянальнага тэатра. Глыбачанам вядомыя і сучасныя літаратары: Алесь Жыгуноў, Марыя Баравік, Галіна Сутула, Ганна Зінкевіч, Уладзімір Сауліч, Алег Салтук. Усіх імёнаў не пералічыць. На дзень пісьменства з'едуцца шмат гасцей з усіх куткоў Беларусі. Што патрэбна нам, глыбачанам, зрабіць?

Па-першае, каб гасцей уразіла прыгажосць і чысціня нашага горада. Вось пра гэта я хачу выказаць сваю думку. Хай мяне прабачаць глыбачане, але большасць жыхароў нашага горада і яшчэ раз кажу, што большасць, як кажуць, і пальцам не паварухнуць, каб упрыгожыць свой двор, пафарбаваць агароджу. Узяць да прыкладу любую вуліцу: Маскоўскую, Леніна, Максіма Горкага - знойдзецца некалькі дамоў і двароў, каб спніцца і палюбавацца прыгажосцю кветак альбо чысцінёй. З вясны неяк некаторыя ўладальнікі сваіх дамоў нешта перакапаюць, нейкія градкі, а ўжо ўлетку і пад восень пустазелле расце пад самыя вокны.

Узяць да прыкладу раён МКК. Прыгожыя пяціпавярховыя дамы. Здымаюць работнікаў завода МКК, работнікаў камбікормавага завода, каб навесці ў двярах хоць нейкі парадак. Пад вокнамі зробленыя градкі. З вясны пасеялі бурачкі, моркву, хто бульбачку пасадзіў, а праз месяц на ўсё забыліся, і пустазелле расце да вокан першага паверха. Хіба ж гэта не сорам? Такі мікраraён і, практычна, ніводнай клумбы з кветкамі. Асабіста назіраў такую карціну, як некалькі жыхароў з дома па вуліцы Леніна, 107 падграбалі мінулагоднюю засохлую траву і збіралі ў мех пластыкавыя бутэлькі. На чацвёртым паверсе маладыя жыхары дома рагаталі і кідалі акуркі і пакеты з-пад чыпсаў на ўжо падабраную тэрыторыю. Вось вам і культура!

У многіх глыбачан ёсць па 2-3 кватэры. Здаюць іх так званым кватарантам, а ім да "лямпачкі" чысціня і парадак. Добрая інфармацыя для падатковай службы.

Неяк у мінулым годзе, ідучы па вуліцы Міра, да мяне звярнулася пажылая жанчына з дома №3. З яе размовы зразумеў, што некалькі гадоў таму работнікі ЖКГ зрабілі вакол дома невысокую агароджу. "Пабачце, што цяпер стала з гэтай агароджы, пад вокнамі зрабілі футбольную пляцоўку, у шчэпкі пабілі штакетнік. Газавая труба з кранамі, якая пракладзена ў бок кацельні, агароджана арматурай, дык і тую пагнулі, і зварка не памагла". Пытаюся ў жанчыны: "А што бацькі?" – "А што бацькам, ведаюць, што работнікі ЖКГ адрамантуюць". Сорамна было глядзець на гэты дом па вуліцы Міра,3. Пасярод дома пустазелле расло да акон першага паверха. "А там, хто пражывае?" – "Кватаранты", – пачуў у адказ. А вось з другога боку прыгожыя і дагледжаныя клумбы, скошаная трава, пафарбаваныя вокны. Бачна, што гэтым жыхарам не будзе сорамна ў Дзень пісьменства перад гасцямі. Практычна такая сітуацыя назіраецца па ўсяму гораду.

Канечне, мы, жыхары нашага горада, любім свой горад. Аўтару гэтых радкоў прыйшлося многа аб'ездзіць па Гродненскай вобласці, Брэсцкай вобласці. Хоць і цяжка вымавіць гэта, але такога забруджанага горада, як наша Глыбокае, я не бачыў.

Старшыня раённага выканаўчага камітэта Алег Морхат быў у Ганцавічах, дзе ў мінулым годзе праходзіў дзень пісьменства, і сваімі вачыма бачыў, які гэта горад.

На маю думку, вельмі многа бруду засталося ад былой улады нашага раёна. Практычна, за 13 гадоў кіравання нічога не рабілася. У галаву не ўкладваецца , як магло кіраўніцтва раёна і архітэктар даць дазвол на будаўніцтва гэтага "помніка архітэктуры" магазіна "Арбіта". Але чамусьці вельмі быў зацікаўлены ў гэтым будаўніцтве былы наш дэпутат Хрол. Няўжо нельга было пабудаваць гэтую "Арбіту" пры ўездзе з боку вуліцы Максіма Горкага каля лясгаса? Месца там хапіла б і для стаянкі. А зараз што мы бачым? Практычна ў горадзе няма плошчы. А што ёсць, дык гэта стаянка для аўтамабіляў. З прыходам новай раённай улады, горад наш папрыгажэў. Чаго толькі каштуе дзіцячая пляцоўка "Брыганціна", будуецца набярэжная вакол возера Кагальнае. Заканчваецца рамонт гарадскога Дома культуры. Я не сумняваюся, што наш гарадскі парк стане цудоўным месцам для адпачынку жыхароў горада і гасцей. На маю думку, не адзін мільярд рублёў быў бы сэканомлены, калі б да гэтага былой уладай штосьці было зроблена. І зараз патрэбна размеркаваць разумна сродкі, якія нам выдзеленыя на добраўпарадкаванне горада. Мяне вельмі хвалююць (я ўжо не раз пісаў на гэтую тэму) агароджы каля прыватных дамоў. Дарэмна мы трацім тут грошы. Няўжо нашы глыбачане так бедна жывуць, што кожны каля свайго ўласнага дома не можа пабудаваць агароджу? Магчыма, патрэбна вярнуцца, як было раней, і зноў арганізаваць вулічкомы. Дайшло да таго, што ўжо патрэбна гарадской уладзе фарбаваць агароджу каля ўласнага дома. Глыбачане, сорамна за вас!

Па колькасці гандлёвых кропак, магазінаў, павільёнаў, па колькасці ўласных аўтамабіляў, няма роўных з такіх раённых цэнтраў у Беларусі, як Глыбокае. Магчыма, за грашыма мы ўжо і нічога не бачым. Магчыма, ужо нам нічога і не патрэбна, акрамя грошай.

Вялікія сродкі будуць затрачаны да Дня пісьменства. Але так хацелася б, каб кожны з нас асабіста зрабіў нейкі ўнёсак, каб нам не было сорамна перад гасцямі.

Калі хто не згодзен з маімі меркаваннямі, адгукніцеся на старонках "Вольнага Глыбокага".



■ **Аляксандр Івашчонак**,
*бакалаўр гісторыі, г.Нэапаль, Італія.*

**Працяг.**
*Пачатак у №4(616) , №5 (617), №6 (618), №7(619), №8(620), №9 (621), №10(622); №11 (623), №12 (624), №13(625), №14 (626), №15 (627), №16 (628), №17 (629), №19 (631) за 2012 год.*

**Публікацыя захоўвае стыль і правапіс аўтара.**

*Глыбоцкай бібліятэцы – 315 гадоў!*

# Мястэчка Глыбокае

## Глыбоцкая Бібліятэка

Мястэчка Глыбокае крые ў сабе шмат цікавых скарбаў. Гэтымі скарбамі перш за ўсё з'яўляюцца выбітныя людзі, якія тут жылі, працавалі і пахаваныя, помнікі архітэктуры – маўклівыя сьведкі розных падзей, таксама і праўдзівыя скарбы – золата, срэбра і гд. Аднак скарбам былі і ёсьць таксама й кнігі. У сваёй гісторыі наша мястэчка мела вялікую колькасьць такіх скарбаў, якімі ёсьць кнігі.

Узьнікненьне ў Глыбокім бібліятэкі было непадзельна зьвязана зь дзейнасьцю манахаў Кармэлітаў, якія зьявіліся ў мястэчку ў I-й пал. XVII ст. Ужо менавіта тады паступова пачала ўзьнікаць пры кляштары бібліятэка – духоўны і навуковы скарб мястэчка. Адным з першых дакумэнтаў аб паўстаньні глыбоцкай бібліятэкі была папская булла[1] ад 18 лістапада 1697 г. папы Інакенція XII, якая дазваляла на закладаньне пры кляштары Кармэлітаў бібліятэкі, з апісаньнем, якія кнігі там маглі б знаходзіцца, хто павінен быў трымаць ключ ад бібліятэкі і гд. Такім чынам, за канкрэтную дату ўзьнікньненьня глыбоцкай бібліятэкі можна сьмела лічыць 18 лістапада 1697 г.[2] Аднак гэта ня значыць, што бібліятэка (у сэнсе кнігазбору) не ўзьнікла раней.

Вяртаючыся да самой бібліятэкі, варта прыгадаць, што ў тыя часы бібліятэкамі называлі таксама адну шафу ці скрыню з кнігамі, бо кнігі былі вельмі дарагія, таму той, хто меў ужо некалькі кніг, лічыў, што мае бібліятэку. Аднак глыбоцкая бібліятэка была вялізарнай бібліятэкай. Уяўляла сабой вялікую залю з кніжнымі шафамі і скрынямі. Дзеля бібліятэкі былі зробленыя адмысловыя навугольныя драўляныя шафы з кратамі і паліцамі, умураваныя на палову ў сьцяну. Такіх шаф было 11, акрамя таго 3 вялікія, акутыя скрыні, з унутранымі шуфлядамі, якія замыкаліся на вісячыя замкі. У гэтых скрынях трымалі найбольш каштоўныя кнігі.

Варта прыгадаць, што ў тыя часы кнігі былі сапраўднымі скарбамі, адна кніга магла каштаваць прыкладна 3-5 кароў, а некаторыя і яшчэ даражэй. З узьнікненьнем друку кошты кніг зьнізіліся, але мець кнігі мог сабе дазволіць толькі вельмі багаты чалавек.

Менавіта таму, трэба было вельмі клапаціцца, каб гэтыя скарбы ніхто не ўкраў, а асабліва ў часе войнаў. Дзеля гэтага бібліятэка замыкалася на замок, ключ ад якога меў толькі манах-бібліятэкар, нават прыёр ня меў дублікату. Чытаць кнігі можна было толькі ў бібліятэцы і толькі пад наглядам манаха-бібліятэкара. Найбольш дарагія кнігі дый пэргаміны трымалі ў скрынях, акутых жалезам, якія зачыняліся на замок, ключ ад якога меў толькі манах-бібліятэкар.

Быць бібліятэкарам у Глыбокім – гэта была вялікая адказнасьць, таму толькі вельмі прыгатаваных манахі, якія дасканала валодалі лацінскай мовай, а акрамя таго скончылі ўнівэрсытэт, маглі быць бібліятэкарамі. Апроч таго, бібліятэкар павінен быў сачыць ня толькі за тым, каб ня кралі кнігі, але каб яны ня плесьнілі, бо ў залі, якая ня мела абаграваньня, было вільготна, асабліва ўвосень і ўвесну, таксама каб пацукі не пацуравалі гэтыя кнігі, бо шмат зь іх мела скураныя вокладкі. Бібліятэкар павінен быў сачыць і за тым,



**Манах у бібліятэцы.**



**Папа Інакенцій XII, які за подпісам кардынала Албануса, выдаў буллу ад 18 лістапада 1697 г., што зьяўляецца адным з першых дакумэнтаў аб паўстаньні глыбоцкай бібліятэкі.**

каб у драўляных шафах не завяліся карэады і гд. Адказнасьць была вялізарная.

Варта таксама прысьвяціць некалькі слоў кніжнаму запасу глыбоцкай бібліятэкі. Перадусім большасць кніг была на лацінскай мове, якія былі прывезеныя з Заходняй Эўропы (у асноўным з Італіі і Германіі). Трэба памятаць, што ў тыя часы (XVII-XIXстст.) навука адбывалася на лацінскай мове[3], якая была тады міжнародный мовай, але таксама і мовай навукі, так як сёньня англійская. Варта памятаць, што бібліятэка была пры кляштары, таму большасць кніг, якія ў ёй знаходзіліся, былі заадрасаваныя да манахаў, і былі яны на рэлігійную тэматыку, але ня ўсе. Варта памятаць, што глыбоцкія манахі клапаціліся пра рознабаковую адукацыю, таму мелі кнігі на розную тэматыку.

**Такой гісторыяй можа ганарыцца кожны эўрапэйскі горад, але ня кожная бібліятэка можа пачынаць сваю гісторыю ад папскай буллы.**

У глыбоцкай бібліятэцы кнігі былі падзеленыя згодна з тэматыкай – так званы тэматычны падзел.

Сьвятое Пісаньне – 25 кніг,
Сьвятыя Айцы – 73 кнігі,
Камэнтары да Сьвятога Пісаньня – 115 кніг,
Кананічнае Права – 71 кніга,
Мараль – 176 кніг,
Школьныя падручнікі – 129 кніг,
Кнігі для казаньняў – 223 кнігі,
Гістарычныя кнігі – 113 кніг,
Духоўныя кнігі – 375 кніг,
Палеміка – 65 кніг,
Палітыка – 113 кніг,
Паэзія – 52 кнігі,
Кнігі, напісаныя Кармэлітамі – 438 кніг,
Мэдыцына – 29 кніг,
Выбраныя кнігі– 198 кніг,
Volumina Legum – 30 кніг,
Розныя – 290 кніг,
Зборнікі – 181 кніга,
Італьянская літаратура – 27 кніг.

Усяго разам у бібліятэцы пры глыбоцкім кляштары было **2621** кніга. Як на тыя часы гэта была вялізарная бібліятэка, нялічучы іншых маленькіх бібліятэчак у Глыбокім пры навіцыяце, пры парафіяльнай школцы, пры канвікце, пры аптэцы і закрыстыі. Глыбоцкаму кнігазбору маглі пазайздросціць нават унівэрсытэты.

Акрамя таго ў Глыбоцкай бібліятэцы пасьля 1812 г. знаходзілася вялізарная скрыня з музычнымі інструмэнтамі глыбоцкай прыкляштарнай капэлы, а дакладней яе рэшткі, пасьля таго, як французы канфіскавалі ўсе духавыя інструмэнты. Засталіся толькі віаланчэлі і скрыпкі (каля 10 штук). На сьцяне ў бібліятэцы віселі два абразы, адзін з біблійнай сцэнай, а іншы сьв. Тэрэзы.

Больш-менш так выглядала глыбоцкая бібліятэка аж да свайго закрыцьця, якое наступіла разам са скасаваньнем кляштара Кармэлітаў у 1864 г. Уся гэтая вялізарная бібліятэка перайшла ў царскую казну. Частка кніг была скрадзена глыбачанамі падчас перавозу бібліятэкі, аднак большасьць кніг была перавезеная ў Санкт-Пецярбург, дзе яны знаходзяцца і па сёньняшні дзень у Расейскай Нацыянальнай Бібліятэцы, дарэчы 3 гады таму, мне давялося пабачыць гэтыя кнігі, захавалася нават частка картатэкі.

Частка кніг пасьля рэвалюцыі патрапіла з Санкт-Пецярбурга ў Казанскую савецкую бібліятэку, якая ў часе II сусьветнай вайны часткова была раскрадзеная. Адна з глыбоцкіх кніг, якая там была, называлася Contro caelibatum "Супраць цэлібату" – аднак назва гэтай кнігі была правакацыйная, бо кніга бараніла цэлібат, бачна што савецкі бібліятэкар ня ведаў лацінскай мовы, таму, прачытаўшы назву, узяў гэтую кнігу ў савецкую бібліятэку. Гэтая кніга хутчэй за ўсё была скрадзена нейкім савецкім салдатам, які, будучы на тэрыторыі Польшчы, прадаў яе, і гэтая кніга патрапіла ў Кракаўскі антыкварыят, адкуль выкупіў яе манах Кармэліт босы айцец Ота Філек. І сёньня гэтая кніга знаходзіцца ў кракаўскай бібліятэцы Кармэлітаў босых.

Некалькі кніг з глыбоцкай бібліятэкі захавалася пры парафіяльным касьцёле Сьв. Тройцы ў Глыбокім, гэтыя кнігі былі перададзеныя ў музей айцоў Францішканаў у Вудзеле.

Як бачна, лёс глыбоцкай бібліятэкі быў трагічны, на жаль, з Глыбокага назаўсёды былі вывезеныя тысячы каштоўных кніг. Аднак на пярэдадні Дня Пісьменства, нам варта прыгадаць, якую вялізарную спадчыну мела наша Глыбокае. Такой гісторыяй можа ганарыцца кожны эўрапэйскі горад, але ня кожная бібліятэка можа пачынаць сваю гісторыю ад папскай буллы.



**Кардынал Албанус.**



**Кляштарная бібліятэка.**






**Свінцовая пячатка (булла) з імя папы Інакенція IV (аверс) і выявы Пятра й Паўла (рэверс).**

**Заўвагі аўтара:**

[1] Булла (ад лацінскага bulla – пячатка) – была адным з найважнейшых папскіх дакумэнтаў, да якога была прымацаваная сьвінцовая пячатка (булла) з выявамі апосталаў Пятра й Паўла з аднаго боку і зь імя папы з іншага боку. Найважнейшыя буллы падпісваў асабіста папа, іншыя – яго сакратар. "Глыбоцкая булла" была падпісаная кардыналам Албанусам.

[2] Гэтая папская булла знаходзілася ў Глыбокім аж да закрыцьця бібліятэкі ў 1864 г.

[3] Аж да II сусьветнай вайны абарона доктарскай дэсэртацыіі ва ўсіх эўрапэйскіх унівэрсытэтах адбывалася толькі на лацінскай мове (альбо грэчаскай).

